УДК 821.161.3-1
ББК 84(4Беи)-5
М64

**Мірончык, Ул. А.**
М64 **Беларусам : вершы, паэмы** / Уладзімір Мірончык. – Мінск : Каўчэг, 2017. – 60 с.
ISBN 978-985-6950-91-2.

**УДК 821.161.3-1**
**ББК 84 (4Беи)-5**

*Літаратурна-мастацкае выданне*
**Мірончык Уладзімір Аляксандравіч**
**Беларусам**
Вершы, паэмы
*У аўтарскай рэдакцыі*
Падпісана да друку 15.11.2017. Фармат 60×84 1/16. Папера афсетная. Друк лічбавы. Ум. др. арк. 3,5. Ул.-выд. арк. 2,6. Наклад 99 ас. Замова 338.
ТАА “Каўчэг”. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюджвальніка друкаваных выданняў № 1/381 ад 01.07.2014.
Пр. Незалежнасці, 68-19, 220072 г. Мінск. Тэл./факс: (017) 284 04 33

**ISBN 978-985-6950-91-2**

## БЕЛАРУСАМ

Паглядзіце, што кожны асобна!
І свайго не сустрэнеш нідзе,
Каб пагутарыць шчыра, лагодна.
Беларус, адгукніся! Ты дзе?

Калі ласка, сустрэнь на дарозе!
Глянь у вочы, далонь мне падай!
Як віталі дзяды на парозе,
Хлебам-соллю мяне сустракай!

Маё сэрца сагрэй родным словам,
Гучна, смела скажы: “Добры дзень!”
Запяе старадаўняя мова,
Зашуміць, бы крынічны струмень.

Будзе дзень той святочным, вядома,
За крывіцкім сталом шэраг страў.
І адчую тады, што я дома,
Што, нарэшце, сваіх адшукаў.

Абразы ў ручніках саматканых,
Вышываных Хрыстовай крывёй,
Супакояць спрадвечныя раны,
Што забралі душы супакой.

Будзе радасць у позірках светлых,
Разуменне і еднасць ва ўсім,
Подых шчасця у думках прыветных,
Пагаворым крыху, памаўчым…

Прыгадаем усіх, што не з намі,
Тых, хто долю для нас будаваў,
Ў светлы рай адыйшоў за вякамі
І шчаслівымі быць загадаў.

Заспяваем шырокую песню,
Вокам ясным акінем прастор.
Барвы ўвосень, а бель напрадвесні,
Так зямля свой змяняе убор…

Людзі, мілыя! Хоць на хвілінку
Забярыце мяне ў Беларусь!
Падаруйце Радзімы часцінку,
Я аддам сваё сэрца, клянусь!

Вы пабудзьце са мной, дарагія,
І разважце мой горычны сум,
Хай схаваюць легенды сівыя
Цёмны гмах недаверлівых дум.

Вы пабудзьце са мной, а я з вамі,
Побач будзе нам значна лягчэй.
Доля светлая – жыць з землякамі,
Мець падтрымку надзейных плячэй.

Беларусы! Трымаемся разам!
Маем згоду і мову сваю!
Гэта будзе магутным адказам,
Што ўратуе Купалы зямлю!

## ВОЛАТАМ БЕЛАРУШЧЫНЫ

Мала пражыў Караткевіч,
Сціпла сыйшоў Барадулін,
Не развітаўся Гілевіч –
Волаты нашы паснулі…

Спіце ж, і ведайце! Будзе
Светлае нам адраджэнне,
І аджыве ў простым людзе
Матчынай мовы натхненне!

Век наш пракляты, мы самі
Не разглядаем дарогі,
Ды шчыра верым, што з вамі
Скруцім заклятасці рогі!

Будзем па-свойму маліцца,
Дзецям чытаць вашы вершы,
Словам сваім ганарыцца,
Ведаць, што кожны з вас першы!

Толькі у сэрцах жывіце,
Нас з вышыні пашкадуйце!
І на шляхах пераймі́це,
Слабасці нашы даруйце!

Вашы радкі пацалуем,
К сэрцу прыгорнем далоняй,
Сілы свае загартуем,
Рушым за вечнай Пагоняй!

## ДЗЯДЫ

Наша спрадвечнае свята,
Сумнае свята – Дзяды.
Чыста прыбраная хата,
Ціха глядзяць абразы.

Белы абрус вышываны,
Свечка гарыць на стале,
Стравы як след згатаваны,
Ды на вячэры не ўсе.

Дзе вы, любімыя душы?
Молімся ціха за вас,
Ваш супакой не парушым,
Вы завітайце да нас!

Двор свой пазнайце ціхмяны,
Гляньце на хатку сваю,
Храм наш стары, дзераўляны,
Што бласлаўляе зямлю.

Дзякуем вам, дарагія,
Што гаравалі за нас,
Ды у гадзіны ліхія
Мелі праўдзівы адказ.

Ведалі праўду святую,
Бедна, ды годна жылі.
Дай Бог, і мы ахвяруем
Сэрцы для роднай зямлі.

## НАПАМІН

Там крычаць:”За Маскву!”,
Там равуць:”За Варшаву!”,
Тыя рымскага папы цалуюць прастол…

А хто Збаўцу-Хрысту
Дасць пашану і славу?
Толькі Ён будзе побач, як вырыюць дол…

## ЭКСПРОМТ

Вецер ціха калыша бярозкі,
Срэбны промень спусціўся на дах,
Чутны шумнага дня адгалоскі
І пяе нешта сумнае птах.

## ПУСТЫЯ

Колькі быць яшчэ з вамі, чужыя?
Колькі думкай таемнаю жыць?..
Вы не грэшнікі і не святыя,
Вы – пустыя! Ды што гаварыць...

## СОН АКАРДЭОНА

Светлы сон акардэона
У барвах восені туманнай
Павядаў душы натхнёна
Аб нязведаным спатканні.

Мроілася нам сустрэча
І застаўся успамінам
Незабыўны цёплы вечар,
Гронкі спелыя рабіны.

## ПАКЛІКАННЕ

Як не кожны пайшоў за Хрыстом,
Так не кожны ідзе за Купалам.
Дарагія, сябе зберажом!
Душ нямнога, народу навалам…

Светам белым народ наш ідзе,
Праз стагоддзі нясе сваю волю.
Яго вечная праўда вядзе,
Беларуская, светлая доля.

## РОДНЫМ

Так нясецца ў сусвеце планета
І у прорве ваганняў пустых
Толькі сэрцамі родных сагрэты,
Толькі радасцю бачыць жывых…

## ГІСТАРЫЧНАЯ ПАЭМА

### Уступ

Перагледзім гісторыі справу
Ад пачатку стагоддзяў сівых,
На карысць нашу, людзям на славу
І ўспамін аб падзеях былых.

Навучайцеся, добрыя людзі,
Ушаноўвайце продкаў шляхі!
Хто мінуўшчыны вехі забудзе,
Таго скінуць з рахунку вякі.

Дык пакрочым жа ў нетры святыя,
Паказаць вам багацце бярусь.
Там і смутак і дні залатыя,
Там радзіма – Літва-Беларусь!

### I. Зямля

Не знайсці ў цэлым свеце вялікім
Гэткай велічнай, дзіўнай красы,
Што у сэрцы пяшчотным і дзікім
Захавалі Радзімы лясы.

Там да кветачкі вабіцца пчолка,
Матылёк на галінцы сядзіць,
Сумна жаліцца дзесь перапёлка,
Волат-зубр за пушчай глядзіць.

У гаях, у барах і дубровах
Сваю песню пяе птаства хор,
Ўсё вакол у святочных абновах,
І духмяны, і белы прастор.

Так заўсёды бывае вясною,
Водар поўніць дыханне зямлі,
І салодкай начною парою
Агалошваюць даль салаўі.

Расквітаюць балотаў абшары,
Дзіўным колерам травы гараць,
І да сініх азёр чорны хмары
Падыходзяць, каб воды аддаць.

Рэкі поўняць бясконцыя далі
І падземныя б’юцца ключы,
Разліваюць чароўныя хвалі,
Што павінны жыццё зберагчы.

Шчодры дар свой разгорне прырода
Урадлівым багаццем пладоў,
Нівы родзяць хлябы год ад году,
Засяваюцца зернем ізноў.

А пад восень зямля замірае,
Ў буйнай чырвані дрэў карагод,
Вецер золатам шлях засыпае,
Туманы п’юць барвовы усход.

Над прасторамі голас журлівы,
Падымаюцца ўвысь жураўлі,

Аглядаюць самотныя нівы
І знікаюць над краем зямлі.

І надоўга жыццё засынае,
Свежы подых прыходзіць з палёў,
Белым снегам зямлю прыбірае,
Каб увесну прачнулася зноў.

**ІІ. Плямёны**

На ўзбярэжжах Заходняй Дзвіны
Сталі людзі ў плямёны збірацца,
Голас кроўны склікаў іх туды –
Выпаў лёс крывічаміназвацца.

Іх чакала дарога ў жыццё
І найпершая княства сталіца,
І Сафіі святой адкрыццё,
Дзе і сёння мы можам маліцца.

У міжрэччы, дзе спала смуга,
Ад Дзвіны ды да самай Прыпяці
Пакарылася людзям дрыгва,
Як было ім саміх сябе клікаці?

Белым днём і у цёмнай начы
Абжывалі прасторы нястомна
І назваліся дрыгавічы,
Кажуць кнігі цяпер бессаромна.

Рэчка Сож разлівалась шырока,
Між чаротаў і вербаў плыла.

І прыходзілі людзі здалёку,
Для жыцця мелі ўсё тут спаўна.

Ды назвалі мясцовасць Радзімай,
Бо радзімічы самі былі,
Так і мы праз стагоддзі за імі
Аб Радзіме снім дзіўныя сны.

Так жылі нашы даўнія продкі,
Выпаў лёс ім найпершымі быць.
Кожны крок іх цяжкі, нетаропкі
У адбітку стагоддзяў ляжыць.

Гаспадарка – іх першая справа,
Земляробства і ловы ў лясах
Прымушалі да працы нямала,
Пот штодзённы – нялёгкі пасаг.

Дасылала пытанні ім неба
Пра маланку, дажджы і снягі.
Што прыходзіць адкуль і як трэба
Берагчы кожны дзень дарагі.

Гэта прашчуры нашыя з вамі,
Усё тая ж крывіцкая кроў,
Што нягоды змагала вякамі,
Кроў радзімічаў, дрыгавічоў.

## ІІІ. Гарады

А стагоддзі спяшаліс імкліва
І плямёны мацнелі штодня,

Гартаваліся ў працы руплівай,
Ўмацоўвалась наша зямля.

Першым горадам Полацк назваўся,
Ён узняўся магутнай сцяной.
На высокіх мурах будаваўся,
Над спрадвечнай Заходняй Дзвіной.

У дзядзінцы паселішча сіла,
Паабапал пасады яго,
Пасярэдзіне торг мітуслівы
Падаваў для ужытку дабро.

Вакол Полацка землі збіраліс,
Утваралась дзяржава адна.
На княжэнне мужы выбіраліс
Валадарыць да межаў Дняпра.

Потым Тураў узняўся вялікі,
І Заслаўя і Берасця гмах,
Віцебск, Копысь і Браслава блікі
Заірдзеліс на сініх вірах.

Менск і Ворша, Лагойск і Барысаў,
Друцк і Пінск падымалі валы,
Кожны частку гісторыі ўпісваў,
Чарадою змяняліс гады.

Расквітала рамесніцтва ўсюды,
Кожны талент імкнуўся далей
Паказаць рукатворныя цуды
Сярод іншых руплівых людзй.

Выраблялі для працы прылады,
І для хатняга побыту скарб,
Працавалі сумленна, да ладу
І каваль і ганчар і цясляр.

Добра ведалі гандлю выгоды,
Шлях з варагаў у грэкі ішоў.
Падарожнікі мелі прыгоды,
Хто карысць, а хто шчасце знайшоў.

Гарады нашы – гонар і сіла,
Цуда-волаты, скарбы зямлі
На Радзіме прыгожай і мілай
Нібы дрэвы ў дуброве ўзраслі.

**IV. Князі**

Княжыць мудра – адзнака абраных,
Мець адвагу і гонар заўжды.
Не уладзе прыносіць пашану,
А падданым княжэння плады.

Справядлівась, пачэснасць і годнасць
У каронах вялікіх князёў
Падарыла ім высакароднасць –
Роўнасць спраў вырашальных і слоў.

Шмат імён залатых упісана
У гісторыю роднай зямлі,
Пра іх жыцці легенды складаны,
На іх лёсах растуць палыны.

Горкай праўдай жыццё Рагвалода
І цяпер адзываецца ў нас,
Незгасальная памяць народа
Захавала навекі той сказ.

Міжусобныя клятыя войны
Усяславу паганілі шлях,
Ён жа княжай пасады дастойны
Валадарыў на вольных вятрах.

Гаварылі, што быў чарадзеем,
Ваўкалакам да Кіева йшоў,
Сваіх ворагаў нішчыў надзею –
Чалавекам рабіўся ізноў.

Ў адна тысяча годзе дзевятым
Першы раз бачым слова “Літва”,
З Панямоння ў Павілле заўзята
Свой уплыў пашырала яна.

Цягам часу Арда Залатая
Ад Кітая да самай Масквы
Сваё іга паўсюль раскідае,
Сее камні магіл і пяскі.

Князь Міндоўг той Арды не баяўся,
Да Літоўскіх зямель не пускаў.
З нехрышчонай навалай змагаўся
І ад Папы карону прыняў.

Віцень князь абраў гербам “Пагоню”,
На выяве там рыцар Літвы

Меч высока узняў над сабою
І імчыцца на ярым кані.

***

На княжэнне ўзыйшоў Гедымін,
Непарушны меў прынцып улады –
Не чапаць старыны, не прымаць навізны,
Тады ўсё у нас будзе да ладу.

Пад дзяржавай яго аб'яднаўся народ –
Ўсе ліцвіны, русіны, жамойты,
Прырастала да Княства зямля кожны год,
Пашыраліся землі прыстойна.

Князь Альгерд на Масковію з войскам хадзіў
І збіраў усе рускія землі,
На рацэ Сіні Воды татараў разбіў,
Крыжакі з ім сустрэч не хацелі.

Два браты валадарылі краем адным
Праз іх справы усё расквітала,
І назвалі ліцвіны той век залатым,
Аб ім лірнікі пелі нямала.

Вітаўт – князь на Літве,а Ягайла – кароль,
Яму Польшча пасад даручыла,
Баранілі зямлю ад мяча крыжакоў,
Што знайшлі пад Грунвальдам магілу.

Вітаўт межы пашырыў дзяржавы сваёй
Ад Балтыйскага к Чорнаму мору,

Свет дзівіўся вялізнай краіне такой,
Што займала Еўропы прастору.

Шмат чаго можна тут пра князёў напісаць,
Яны зналі пашану і горыч,
Ды не хопіць жыцця, каб усё расказаць
Гора з радасцю ўсюды йдуць поруч.

**V. Вера**

Першай верай была нам прырода,
Што захоўвала тайны свае.
І дзівіліся ёй год ад году,
І малілісь ёй людзі усе.

Хто у сонца прасіў ураджаю,
Хто у неба, дажджоў і грымот,
Хто падзяку нёс роднаму краю
За багаты ўпару умалот.

Ушаноўвалі людзі зямельку,
Камень, дрэва і ўсё, што вакол,
Сваім продкам сцялілі пасцельку –
Душа ў неба, а цела на дол.

Шмат імёнаў народ наш прыдумаў –
І Вялес і Пярун і Дажджбог,
З цягам часу парадак той лунуў,
Хрысціянства прыйшло на парог.

А была праваслаўная вера
З Цараградскай далёкай зямлі,

Яе князь Уладзімір праверыў
Ў поўных водах Дняпроўскай ракі.

Праз чатыры гады, неўзабаве,
Ахрысціўся і Полацк стары,
Біскуп Міна япархію ставіў,
Што квітнее да гэтай пары.

Ў хуткім часе і Тураў вялікі
Праваслаўную веру прыняў,
Архірэйскіх пасадаў адлікі
Тут святціцель Фама распачаў.

Хоць пазней, але гэдак жа спраўна
Каталіцкая вера прыйшла,
З той пары і жывуць з праваслаўнай,
Перашкод паміж імі няма.

Мела шмат яшчэ розных вызнанняў
Хрысціянства на нашай зямлі.
Ды не зменіш біблейскіх казанняў,
Пра адзінага Бога яны.

Ёсць і розныя веры другія,
Мусульмане, юдэі жывуць.
Хоць іх храмы ужо не такія,
Ўсё ж адзінаму Богу пяюць.

## VI. Еўфрасіння Полацкая

Ціха ў келлі лампада гарыць,
Лік Хрыстовы ўначы асвятляе,

Прад іконай дзяўчынка стаіць,
Слова Божае ўголас чытае.

Свечка тонкая ў белай руцэ
Свет ліе на святыя старонкі,
Як хрысціўся Гасподзь на рацэ
Праваслаўна пяе голас звонкі.

Толькі ўчора князёўнай была,
Жаніхі яе ручкі прасілі,
Сёння пострыг святы прыняла,
Ёй багацці мірскія пастылі.

Плакаў бацька і маці яе,
Шкадавалі жыццё маладое,
Іх дачушку анёл павядзе
Ў малітоўнае месца святое.

Там паставіць яна манастыр
І славутую цэркву Хрыстову,
Перапіша рукою Псалтыр
Старадаўняй славянскаю мовай.

Крыж святы ускладзе на прастол,
Будзе ён найвялікшай святыняй.
Міласэрнасць пасее вакол,
Слава Божая ўвек не загіне.

Люду простаму будзе яна
Добрай маці, заступніцай светлай,
Да апошняга самага дня
Міласэрнай, ласкавай, прыветнай.

Здзейсніць шлях на святую зямлю,
Пройдзе там па сцяжынках Хрыстовых,
І ў мальбе за Радзіму сваю
Пойдзе ў свет таямнічы і новы.

Занатуе славянскі народ
Прападобнай святыя імкненні,
З той пары ужо тысячу год
Ў яе гонар складаюць маленні.

Ціха ў келлі лампада гарыць,
Лік Хрыстовы ўначы асвятляе.
Перад Богам святая стаіць,
Беларусі малітвай спрыяе.

## VII. Малітва да Кірылы Тураўскага

Ойча Кірыле, свяціцелю Божы,
Сёння з малітвай ідзём да цябе!
Верай багатай, постаццю гожай
Шлях асвяці нам у цёмнай імгле!

Ты уладарыў над чынам святарства,
Прашчураў нашых вучыў добра жыць.
Дай жа нам сілу пазбегнуць каварства –
Родную мову навек не згубіць.

Край наш загнаны, свайго не пачуеш,
Страшная крыўда стаіць за душой.
Хіба з нябёсаў ты нас уратуеш,
Вернеш малітве святочны настрой.

Ўсе праслаўлялі цябе, златавуста,
І красамоўству дзівілісь твайму.
Як жа так стала у сэрцайках пуста?
Ў храме не ўчуеш гаворку сваю.

Ты нам пісаў на старой беларускай,
Роднай, лагоднай, пявучай заўжды.
Сёння ж вакол неяк цёмна і вузка,
Ў цэркве даўно не квітнеюць сады.

Ладам чужынскім спяваюць у храмах,
Пэўна аднекуль здалёку прыйшлі,
Храмы ж з каменняў **сваіх** збудаваны,
Тых, што жыцця твайго сведкай былі.

Рукі ўздымі да Хрыстова прастолу,
О, беларускі вялікі святар!
Хай на тым свеце гучыць наша мова,
Хай яе Бог ускладзе на алтар!

Будзе яна, быццам ладан кадзільны,
Водар яе – подых ветру з палёў,
Што заблукаў у прасторах прыхільных
Сярод жытоў нашых і васількоў.

Сам жа Гасподзь дараваў нашу мову,
Як жа забраць у народа яе?
Ветхі Завет адыйшоў, будзе Новы,
Мова святая ізноў запяе!

Сёння распята, а заўтра ўваскрэсне,
Кожнаму радасць падорыць сваю!

І загучыць яснай чыстаю песняй,
Той, што праславіць зямельку тваю!

## VIII. Ліст да Міколы Гусоўскага

Старадўні вялікі паэт,
Наймудрэйшы, стагоддзямі новы!
Тваймў слову дзівіўся ўвесь свет,
Закладаў Адраджэння асновы.

Ватыкан ганарыўся табой,
Каралевы ў дар кнігі прымалі,
Захапляліся Вялікай Літвой,
Дзіўны свет для сябе адкрывалі.

Паляўнічага простага сын
Апісаў на зубра паляванне,
Нібы хуткай стралы востры клін
Запусціў у радкі вершавання.

Распавёў пра гаворку сваю
І кірыліцы знакі густыя,
Што пад зоркай Палярнай зямлю
Упісалі у кнігі святыя.

Пра дзяржаву і гонар людзей,
Нашы звычаі, песні, балады,
Слаўны шлях гістарычных падзей,
І вялікага князя уладу.

Атрымаў Вітаўт князь у цябе
Вечны помнік пачэснага слова,

Яго час праз стагоддзі нясе
Пакаленням мінулым і новым.

Супраць войнаў злачынных твой гнеў,
Жаль і слёзы, душы абурэнне.
Ў час кароткі разгледзець паспеў
Ты жыццё і дарогу збавення.

Годна песня гучала твая
У палацах вялікіх вяльможаў,
Пакарыла іх наша зямля,
Родны край ты услявіў прыгожа.

Беларускае слова ў латынь
Апранулася казачным чынам,
Дык і сёння ж народ не пакінь,
Сваіх душ для цябе не зачынім!

Найсвятую Марыю прасіў
За зямлю Беларускага краю,
Вечны сэнс для нашчадкаў адкрыў –
Для Радзімы жывём і ўміраем.

**IX. Біблія Скарыны**

Кажуць літары "Біблія Руска",
Гэта значыць, што рускія мы?
Неяк надта нязручна і вузка
Ад такой незвычайнай думы.

Прачытаем далей, самавітым
Ясным позіркам змерым радкі.

Скіравана “ляюдзям паспалітым”,
Паспалітыя ж тут я і ты.

І адкуль гэта дзіўнае слова?
Толькі ў нас гаварылі яго.
Маскавітам яно будзе нова,
А для нас мае сэнс усяго.

Паспаліты – звычайны і просты,
Свой, мясцовы, агульны для ўсіх.
Не чужынцам Скарына быў хросны,
Шчыраваў для тутэйшых, сваіх!

І ў прадмовах да кніг друкаваных
Бачым шэраг жывых родных слоў,
Што у Празе станкамі набраны,
Каб чыталі мы іх зноў і зноў.

Тут і “волат” і “вежа” і “згода”,
І “прамень” і “сяўба” і “жніво”,
“Сцежка”, “смутак”, “пачатак”, “нагода”,
“Гай”, “дзяцінства”, “узгорак”, “пітво”.

Тэкст радкамі чырвона адзначан,
Рассцілаецца, нібы абрус.
Пераглядзеўшы склад, ясна бачым,
Што Скарына, як мы, беларус!

Беларус! І няма тут сумневу,
Друкаваў роднай мовай жывой.
Дзіўны дар прысвяціўшы свой Небу,
Ганарыўся бацькоўскай зямлёй!

Навуковец, пісьменнік, філосаф,
Доктар слаўны і першадрукар
Для ліцвінаў, жамойтаў і росаў
Мудрасць вечную ў кнігі заклаў.

Пяць стагоддзяў прайшло непрыкметна,
Кнігі ж тыя і сёння для нас
Адзываюцца словам прыветным,
Бласлаўляюць жыцця кожны час.

## X. Песня лірніка

Ой, заплакалі гучныя струны,
Загулі, бы вятры над Дняпром,
І напеў той зычлівы і сумны
Паліць сэрцы прарочым агнём.

Старац белы забыўшыся грае,
Песня сілаю дзіўнай гучыць,
Пакаленням жывым прамаўляе,
Каб не смелі былога забыць.

Плача лірнік, зрываецца голас,
Выюць струны, бы ў поўнач ваўкі,
Просяць нас зберагчы жытні колас,
Каб раздольна цвілі васількі.

Каб ніхто не забыўся ніколі
Пра мінуўшчыны велічны шлях,
Быў вальнейшым сярод самых вольных,
Меўшы прадзедаў вечны пасаг.

У пасагу багацці і скарбы,
Падарункі, якіх не сустрэць,
Гукі, колеры, пахі і фарбы,
Паспяшайцеся іх разглядзець!

Гэта водары роднага краю,
Гэта зорнага неба агні,
Дудароў, гусляроў песні-баі,
Што спрадвечнаю праўдай жылі.

Гэта золак туманны і росны,
Гэта словы братоў і дзядоў.
Лёгкі строй беларускі наш просты
І баграніца уладароў.

Гэта замкі, касцёлы і цэрквы,
Вежы, брамы, званы, алтары,
Знак “Пагоні” стагоддзямі верны,
Сведкі-капішчы і курганы.

Цуда-камні і сосны святыя,
Горкі водар травы ў палынох.
Збажына і пшаніцы густыя,
Што буяюць красой у палёх…

Песня лірніка вечна жывая
Для сумленных нашчадкаў гучыць.
Ён жа зноў нас усіх заклікае,
Каб не смелі Радзіму забыць.

## НОЧ ЗІМОВАЯ

### I

Шмат калісь было на нашых землях
Гора і няшчасця і нягод,
Дзіўныя паданні ў пакаленнях
Праз стагоддзі захаваў народ.

Ў сказах захавалісь таямніцы,
Пра якія не пісаў ніхто.
Час ідзе і трэба падзяліцца,
Не згубіць каштоўнае звяно.

Некалі, у часе ліхалецця,
Праз Радзіму нашу ворагі ішлі,
Забіралі жыцці, як суквецці,
Што увесну толькі расцвілі.

Ні старых яны не шкадавалі,
Ні дзяцей  маленькіх, ні жанчын.
На Усход ішлі, ўсё руйнавалі,
Здзеквалісь з народа без прычын.

Хіба добры людзі не хацелі
Мірна, ціха і спакойна жыць?
Ворагі ж адчайна вар'яцелі,
Мелі мэту знішчыць і забіць.

Хлеб спалілі,  знішчылі пасевы,
Хутары ў агні былі вакол.

І шалелы чорныя павевы,
Падаўшы на высмалены дол.

Безупынку чуўся плач дзіцяці,
Нехта у трызненні паміраў,
І стагнала ўся зямелька-маці,
Жыццяў многа чорны лёс забраў.

Гвалт і страх, агонь і разбурэнне,
Знішчаныя нівы і сады
Ў сэрцах нараджалі абурэнне
Ад усенароднай той бяды.

Час ішоў, пачаў народ збірацца,
Бо не мог ён крыўду дараваць.
Полымем страшэнным разгарацца,
Сталі сэрцы, каб бяду змагаць.

**II**

У гушчарах і пушчах вялікіх
Гінуў вораг, знікаў без слядоў.
На балотах шырокіх і дзікіх
Смерць збірала чужых ваяроў.

У Масковію рухалась хмара,
На рахунку іх безліч ахвяр,
У расейскай сталіцы навала
Напаткала страшэнны пажар.

Ўсё гарэла, палацы і храмы,
Людзі знішчылі свой родны дом,

Каб не кінуць у рукі аблавы,
Падпалілі да неба агнём.

Не дасталася катам багацце,
Рабаваць не было ўжо чаго,
І трагедыі чорнай пракляцце
На іх лёсы каменнем лягло.

Не было ўжо над чым валадарыць,
Пуста, гола, вакол чорны дым,
Невядома пра што было марыць
У тым часе нямым і глухім.

І тады у аблозе гвалтоўнай
Вораг трапіў пад моцны удар,
Былі сілы ў тых бітвах няроўны,
Як паднесла прырода свой дар.

Ад Масковіі кінуўся вораг,
Зноў імкнуўся на Белую Русь,
Ды зіма раскідала свой полаг,
Саматканы марозны абрус.

Закавала дарогі і долы,
Пазавеяла гурбамі шлях,
Разаслала шырокія полы
На палеглых варожых касцях.

І прымала ў халодныя воды
Ціхаплынная Беразіна
Тых людзей і масты і падводы
Апускала да чорнага дна.

**III**

Той, хто выжыў, на Захад імкнуўся
І шукаў паратунку, як мог,
Нібы тварам к жыццю павярнуўся
Сярод нашых забітых дарог.

О, Жыццё! Беражыцеся, людзі!
Не рабіце нікому бяды!
Хто з нас ведае, далей што будзе,
Праз бліжэйшыя дні, ці гады.

Не рабіце нікому ліхога,
Атуліце аховай жыццё!
Не парушце завету святога,
Бо саміх паглыне забыццё!

Не імкніцеся ў землі чужыя,
Не рабуйце, як звер у лясах!
Не паганьце крыніцы жывыя,
Не прыносьце з сабой смертны страх!

Угзадайце, што час наш кароткі,
Не марнуйце яго для вайны!
Не аб тым клапаціліся продкі,
Каб нашчадкі не змылі віны!

Бо заўсёды прыходзіць адплата,
Хоць яе не чакае ніхто.
Лёс не выдасць на водкуп дуката,
Калі нехта пазычыў на зло!

І бывае, што сэрцы людскія
Жудкай помстай заўзята гарaць,
Стануць думы, як дзёгаць, густыя,
І імкненняў нічым не стрымаць.

Ліха дзеецца, помста ахопіць,
У вачах, бы пякельны агонь
Жар нязгасны вугаллямі топіць,
Не падставіш і блізка далонь!

Вось пра гэта і наша казанне,
Справядлівая праўда жыцця.
І не змые святое літанне
Тых падзей, і не дасць забыцця.

**IV**

Па-за рэчкаю вёска стаяла,
На ускрайку ляснога шатра.
Ціха раніца дзень пачынала,
Дзесьці голас гучаў са двара.

Нехта рупіўся, дбаў аб рабоце,
Даглядаўся, ці двор прыбіраў,
Працаваў селянін у ахвоце,
Але гора ўжо добра зазнаў.

Бо нядаўна нядобрыя людзі
Прынясл і горкі лёс у наш край.
А хто ж хлеб для жыцця сеяць будзе?
Хлеб – святое! Жыві, ці ўмірай.

Селянін да вайны не ахвочы,
Яго сэнс у працоўных руках.
Не спачыне да позняе ночы,
Пакуль стомы не будзе ў плячах.

Лёс, аднак жа, бывае кручоны,
І ад мірнае працы сваёй,
Хоць і вельмі душой засмучоны,
Чалавек у смяротны йдзе бой.

За хацінку сваю, за калыску,
Сэрца любай і дзетак малых,
Дзедаў крыж, што далёка і блізка,
Самых родных, жывых і святых.

Так ад хутара слых дакаціўся,
Што назад тыя войскі ідуць,
Моцна білі іх, нехта спыніўся,
А каторыя бегам бягуць.

І дакладна, што хутка ўжо будуць,
Трэба ўсім гартавацца ізноў,
Бо сяляне ніяк не забудуць
Смерць і жахі, і слёзы, і кроў.

Ды якая сялянская зброя,
Косы, камні, сякеры, цапы.
І наважыліс біць смертным боем
Хлебаробы, касцы, кавалі.

## V

Праз туман ішлі чорныя цені,
Мелі зброю, хоць выбілісь з сіл,
А сяляне лічылі імгненні,
Не баялісь заўчасных магіл.

Грымнуў выбух, другі, тады трэці,
Пачалася разня навакол.
Бы снапы стала ворагаў трэсці –
Пад цапамі валілісь на дол.

Хоць стралялі яны, забівалі,
Дух народны заўсёды дужэй!
Абяззброілі іх, пазмагалі,
Але сэрцам не стала лягчэй.

І тады парашылі палонных
Ў велькі свіран заперці на ноч,
Было многа іх стомленых, сонных,
Павялі іх па-ціху наўзбоч.

У той час галасіла сяленне
Аб кармільцах забітых сваіх,
І гучала уночы трызненне,
Душы рэзала, мучыла слых.

Перамога не лёгка далася,
Не было весялосці ні ў кім,
А тым часам і ноч усчалася,
Узялася марозам ліхім.

Неба зоры свае раскідала,
Выплыў месяц сцюдзёны без хмар,
Поўнач помсту сваю гатавала,
Бледным колерам мыла абшар.

Белай беллю хаціны заслала,
Лёгкі вэлюм на лес узняла,
Бы адна яна толькі і знала
Пра пакуты і гора сяла.

Спі, засні, мая любая вёска,
Белы сон хай прысніцца табе,
Заўтра будзе ўсё горка і проста,
Ты заўсёды адна у бядзе.

**VI**

Стала ясна старэйшым мужчынам,
Што па хатах палонных не ўзяць,
Не пагрэць іх пры свеце лучыны,
Бо пакойнікі ў хатах ляжаць.

Бо нядаўна яшчэ рабавалі
Тыя нелюдзі наш родны дом,
Здзекі неслі, агонь, гвалтавалі…
Як жа ў хаты мы іх павядзём?

І пакінулі ў свіране катаў,
Прагучаў ім страшэнны прысуд,
Так прыйшла да забойцаў адплата
За скрываўлены просты наш люд.

Хоць ніхто не хацеў помсты гэтай,
Але так ужо склаўся іх лёс.
Ноч была, як нявеста адзета,
Балам правіў у цемры мароз.

О, злачынная, грэшная справа!
Будзь заўсёды праклятай, вайна!
Ні багацце, ні скарбы, ні славу,
Смерць адну ты даеш піць спаўна!

Адрываеш ад працы штодзённай,
Топчаш збожжа і квецень садоў,
Чорнай хмарай ідзеш вераломнай,
Пра цябе не знайсці добрых слоў!..

Ціхім ранкам усё стала ясна,
Шэрань срэбрам убрала прастор.
Падымалась свяціла нязгасна,
А у сэрцах таміўся дакор.

Ды паснулі чужынцы навекі,
І не прыйдуць ніколі ізноў.
Час імкнецца ў бурлівыя рэкі,
Сведчыць людзям пра тайны вякоў.

І пра тое нашчадкам казалі,
Вусны ў вусны ішоў пераказ,
Каб пра горкую праўду ўсе знalі,
Ад дзядоў пераняўшы той сказ.

## VII

З таго часу год дзвесце мінула,
Не адна пракацілась вайна.
Толькі памяць людзей не заснула,
Для наступных усё зберагла.

І жывуць у народзе казанні
І жадаюць усе аднаго,
Каб страшэнныя тыя прызнанні
Не шукалі парадку свайго.

Каб вясна расквітала багата,
Мірна рэчка на поплаў ішла,
Абразамі свяцілася хата,
Чуўся ў небе званок жаўрука.

Сэрцы прагнулі хвіляў спаткання,
Водар хвоі п’яніў у бары,
І шапталіся словы прызнання
Ў час салодкай вячэрняй зары.

Каб гулялі вясёлыя дзеці
На шырокім квяцістым лагу,
І у сонечным радасным свеце
Збожжа ткала узор васільку.

Ясным спевам шырокая песня
Сэрцу спелую радасць нясла,
Сярод яблынь і белых чарэсняў,
Нібы водар вясновы плыла.

Ціхім быў кожны ранак і вечар,
Дзень працоўны прыносіў свой плён,
Хлеб духмяны быў гонарам печы,
Красаваў на вятры сіні лён.

Гэта скарбы жыцця дарагія,
І аснова і сэнс усяго!
Так вучылі калісьці святыя,
Беражыце, шануйце яго!

*******

Беларусь, дарагая Радзіма!
Праз стагоддзі ты крыж свой нясла,
І святому цярпенню вучыла,
Праўдай Божаю перамагла.

## ГУМАРЫСТЫЧНЫЯ ТВОРЫ

### МАРШРУТКА

Хто не ездзіў на маршрутцы,
Той не ведае жыцця.
Дык паслухайце ж вы, людцы,
Як катаўся ў ёй і я.

На вакзале правінцыйным,
Дзе збіраецца народ,
Мае выгляд афіцыйны
Ўвесь наш местачковы зброд.

Вось стаіць хлапец з цыгарай
На ім шорты “адзідас”,
За плячом футляр з гітарай,
Едзе ў Мінск, а не ў калгас.

Шпрэхае нібы па-руску,
Толькі вось здалёк відаць,
Што не дасць яму ўжо спуску
Родная трасянка-маць.

“Гдзе, чыво, і как даехаць,
Чылавечыскій вапрос,”
Слоў чужых узяў ён вехаць,
Нібы пачак папярос.

Мову родную забыўшысь,
Думае, што гарадскі,

Добра хоць, што не напіўшысь,
Бо зусім памрэш з таскі.

Што, трасянка– дрэнна справа?
Не, шаноўны мой чытач.
Ўжо такая мовы з’ява
Гістарычная, прабач.

Засігналіла машына,
Абуджае сонны слых,
Шапаціць па камні шына,
Запрашае сесці ўсіх.

Расплаціліся па-ціху,
Новым і старым рублём,
Праклінае тое ліха
Наш вадзіцель за рулём.

Браў капейкі і чырвонцы,
Мацаў, правяраў на свет,
Узмакрэў,  як жук на сонцы,
Покуль выдаваў білет.

Ну, уселіся, паедзем,
Будзь здаровенькі, вакзал!
Тут маршрутчык наш угледзеў
Велізарны самазвал.

– Стой! Куды, птамаць, паехаў!
І вучылі дзе цябе! –
Звонкае праз фортку рэха
Ўсім імпэту паддае.

Ўжо за горадам, на трасе,
Едзем моўчкі, цішыня,
Але ў дружнай нашай масе
Зазваніў мабільнік, тля.

У дзяўчынкі маладзенькай
І прывабненькай такой,
Абудзіў шалёнай песняй
Ўвесь грамадскі супакой.

Што званок там нестандартны,
Гэта людзі, паўбяды,
А вось дыялог – не жарты,
Не змяшчу яго сюды…

Ўсе папутчыкі маўчалі,
Нейк няёмка, сорам стыд.
Быццам і не прыкмячалі
У размове той агід.

Тут якраз прыёмнік грымнуў,
Хвалі радыё бягуць
Павядаюць пра навіны,
Дыктары лухту нясуць.

Быццам будзе ўсё бясплатна
І жыві, не памірай,
Ўсё шыкоўна, акуратна,
Словам, не жыццё, а рай.

Але тут ужо эстрада
Праразае наш эфір,

Ад такога перападу
Хоць ты з галавой у вір!

Там без голасу і слыху
Выла нейкая “звязда”,
І з дэфектам мовы крыху
Пела ўсё пра “паязда”.

Тут яе змяніў хрыпаты,
Сіняваты шансанье.
Пеў пра карты і адкаты,
Рэстаран і аліўе.

Дзіка робіцца і жутка
Ад такіх душэўных нот,
Ёсць жа людзі і ў маршрутках
Мы ж таксама тут народ!

Ў даўні час і пры рабоце,
І ў дарозе запяюць,
Ды аб шчасці, аб турбоце
Песні ў шлях з сабой бяруць.

А цяпер такія песні,
Лепш сядзі у цішыні,
Слухай птушак напрадвесні,
Як прыйдуць святыя дні.

Так вось едуць ціха людзі,
Паглядаюць за вакно,
Што ў дарозе далей будзе
Раскажу вам заадно.

Дачнікаў відаць здалёку,
Вёдры, сажанцы з сабой,
Торбы ягад і укропу,
Іван-чай і зверабой.

Хто дамоў вязе ванзэлкі,
Хто цягае на базар,
Зосі, Клавы і Анжэлкі
Маюць з усяго навар.

Тут гляджу, што ўсе ў планшэтах,
У мабільніках, ой, страх!
Адурнела ўся планета,
Будзе наша справа швах!...

Ўжо не пішуць, не чытаюць,
А гуляюць у гульню,
Ў інтэрнэце прападаюць,
Посцяць розную фігню.

Ай жа, д'ябальская сіла
Той паганы інтэрнэт!
Каб цябе чума скасіла,
Хай бы адключылі свет!

Тут бабуля ціха кажа, –
Дзеткі, ці далёка ён,
Інтэрнэт, што думкі свяжа,
І каштуе мо мільён?

Бо калі ён недалёка,
То схадзіла б я туды,

Паглядзела сваім вокам
Гэтай вашай ерунды?

Кажуць, там як на базары,
Прадавай, або купляй,
Ёсць усякія тавары,
Толькі грошы ім давай.

Я б схадзіла хоць разочак
Ў інтэрнэтны магазін,
Паглядзела там сарочак,
Нітак, і для кавы млын.

Але ж пенсія такая,
Што аддам усё зараз,
Можа доля ўжо другая
Будзе мае дзеткі ў вас…

Засмяяліся, прымоўклі,
Кожны думаў пра сваё,
За вакном лісты пажоўклі,
Разгаралася святло.

Быццам тут мы не чужыя,
Кожны кожнаму сусед,
Покі на зямлі жывыя
Пакідаем добры след.

Так даехалі у згодзе,
Прамінуў кароткі час,
Растварыліся ў народзе
Ўсе папутчыкі  нараз.

А маршрутка набірала
Новых пасажыраў шмат.
Што ў дарозе іх чакала
Ты ўжо ведаеш, мой брат!

## БЫЛО ЖНІВО

Па-над вёскай ціхі ранак,
Нізка сцелецца туман,
Выйшаў Філімон на ганак,
Спаражніўся у бур'ян.

Спаў, ці не, пара хмяліцца,
Ды работу пачынаць,
Бо ўсё мроіцца і сніццца –
Трэба збожжа убіраць.

На мехдвор Віцёк шыбуе,
Боты, шапка, ўсё як ёсць,
Толькі сушыць і свідруе
Ўсё нутро на тую злосць.

Быццам нават не гарэлку,
А бензін учора піў.
Так здаецца б з лёдам грэлку
Да макітры прыляпіў.

Вочы – не свае, чужыя,
Неяк не туды глядзяць,
Ды такія ўжо пустыя,
Што нічым не перадаць.

Ў галаве звіняць цымбалы,
Цім-ці-лім і бом-бом-бом,
Перабраў мужык атравы
За хмяльным дурным сталом.

Ды які там стол на полі,
Селі за камбайнам, п’юць,
І ў такім ліхім раздоллі,
Плёткі розныя нясуць.

Быццам старшыня да Машкі
Зноўку ездзіў пад абед.
Ўзяў цукерак, хмельну пляшку,
Сеў у  “Волгу” і прывет!

Ну, на то ён прадсядацель,
І на тое ўжо мужык!
Спраўных дзевак абаяцель,
Ведае іх кошт і лік.

А ў нядзелю сярод храма,
Ўжо са свечкай у руках
Боязна стаіць і прама,
Глянеш – ну, святы манах!

Бацюшка яму старанна
За паклонам б’е паклон,
Так вялося пастаянна,
Так ужо у нас спакон.

Возьме попік наш ахвяру
На машынку, на рамонт,

І нясе яму даляры
З прывілеямі бамонд.

Ладна, ўсё было учора,
П’янка, плёткі і бардак.
Выпіў бы, здаецца, мора,
Так даняў Віцька сушняк…

Вось мехдвор, на ім машыны,
Трактары, усякі хлам,
За дваром хлявы, адрыны,
Гразь з навозам папалам.

Дзесь рыкаюць ўжо каровы,
Стась на выгане раве,
Пугай ляпае сурова,
І надрыўна глотку рве.

Ведама, такая ж справа –
Ў карты ляпаў, перапіў…
Самагонцы нашай слава!
Ганьба тым, хто не наліў!

Ну, дайшоў. Стаяць камбайны,
Неяк роўна так, аж смех.
Маюць выгляд зграбны, файны,
Словам, не заўважыць – грэх!

Ну і што, што ім пятнаццаць,
Дваццаць і вышэй гадоў,
Меней трэба думаць, братцы!
За штурвал і будзь здароў!

А пакуль “Эс Ка” заводзіць,
Трэба наматаць пускач,
Клапаны папераводзіць,
Закурыць, разгрэбсці срач.

Тузануць на што ёсць сілы,
Мацюгнуцца, даць нагой,
І матор зальецца мілай,
Звонкай песняй дарагой!

А тады ўжо на запраўку
Трэба ехаць па чарзе,
Заліваць у бак салярку
Пры шумлівай грамадзе.

А як крышачку ад’едзеш,
У каністру шланжык шасць!
Старшыню здалёку згледзіш,
Ды ніхто ужо не здасць.

Літраў сорак на загонку
Падрыхтуеш для сябе,
І тады ўжо самагонку
П’еш за кроўныя свае.

Дружна йдуць, гудуць камбайны!
Па дарозе – магазін…
Тут затарацца звычайна.
Як жа чым? Вядома чым!

І настрой ужо палепшаў,
Сонца глянула ярчэй,

На бутэльках словы вершаў
Запрашаюць піць хутчэй.

Назвы – проста захапленне,
Светлай лірыкі прамень!
Што не слова – то натхненне,
Сэрца радасны агмень!

Тут “Вясёлая кадрыля”,
“Незнаёмка” і ”Палёт”,
“Восеньскі букет” , “Марыля”,
“Бенефіс” і “Патрыёт”.

“Беларускія напевы”,
“Панскае” , “Магнат” , “Успех”,
“Дачнае”, “Амура стрэлы”,
“Брыганціна”, “Звонкі смех”…

Бачна зразу, спіртзаводу
Трэба штатны свой паэт,
Каб на кожную нагоду
Асаблівы быў куплет.

Адступілі? Выбачайце,
Не мая ўжо тут віна,
Нехта крыкнуў – налівайце!
Асушылі ўсё да дна…

Як уз’ехалі на поле,
То былі гатовы ўсе.
Ну а тут ужо прыволле
На нязжатай паласе.

Нібы мора поле ходзіць,
Вецер хвалі гне над ім,
Ў гэтым годзе жыта родзіць,
Будзе хлеб наш неблагім.

Зараўлі грамчэй маторы,
Барабаны, шнэкі ў бой,
Матавіла пераборы
Жыта сцеляць пад сабой…

“Нівы”, родныя камбайны!
Дарагі наш “Ростсельмаш”!
Беражыце свае тайны,
Падтрымаем выгляд ваш!

Дзе падляпаем, падмажам,
Дзе падладзім, падаб’ём,
Пад капніцелем прыляжам,
Шкіў манціркай крутанём.

Так, ці не, ідзі па збожжы,
Наш савецкі агрэгат!
Ведаем, што добра можаш
Хлеб сабраць на чынны лад.

Едуць, поле абжынаюць,
А за імі йдуць буслы,
У іржонні выбіраюць
Колас выбіты, пусты.

Ўсё б нічога, але ж поле
Парасло беразняком,

На ускрайках пустаголле
Добрым стала шатрахом.

І адзін з камбайнаў нашых
Не пайшоў на разварот,
А бярэзнік стаў шарашыць,
Газануў і упярод!

Гэта быў, вядома, Філька,
Захмялеў зусім, бядак.
Разагнуў на жатцы вілкі
І малоціць беразняк!

Словам, лесанарыхтоўкі
Ўжо пайшлі замест жніва.
Так дарэчна, гладка, роўна,
Проста глянуць любата!..

У капніцелі дрывотня
Праз хвіліну ўжо была,
Тузала камбайн рвотна,
Дыр-дыр-дыр і ўсё, хана!

Стала "Ніва", ў пень упёрлась,
Задыміў яе матор,
Толькі кола яшчэ цёрлась
І прасілась на мехдвор…

Філька спіць, падбеглі хлопцы,
Заглушылі ўсё, як след,
Шахнулі яшчэ па сотцы
І прывезлі ім абед.

Праз гадзіну сак прыехаў,
І запчасці ўжо былі,
Абуха звінела рэха,
Ўсё зрабілі, падмаглі.

Надыйшоў спакойны вечар,
Поле зжата, дзень прайшоў,
Толькі ныла ў Віцькі печань,
І капніцель поўны дроў…

Ну а так, назаўтра зноўку
Будзе поле і жніво,
Тая самая ватоўка,
Тое самае пітво.

Што казаць, жыццё такое,
Філасофія адна.
Дзе што здарыцца ліхое,
Ведай – гэта з бадуна!..

## **"ЗАРАБІЎ"**

Раніцай на вуліцы
Два сябры сустрэліся,
Весела ім курыцца,
Языкамі мелецца.

– Слухай, Дзімка,
Дзе твая старая машына?
Хіба можа памяняў,
Ці працерлась шына?

– Гэдак, праўда, памяняў,
Езджу ўжо на новай.
–Дык а дзе ж ты грошы браў
На таку абнову?

– Еду неяк я сабе
На старым карыце,
Ўсё бразгоча і трасе,
Хочацца завыць мне.

Ланжэроны пагнілі,
Аркі увалілісь,
А падшыпнікі дзяўблі –
Колы чуць круцілісь.

Ладна, думаў, падвару,
Дзе крыху падладжу,
Неяк тэхагляд прайду,
Можа як падмажу.

Тут гляджу на светлафор –
Бумер вылятае,
Так ён шчыльненька падпёр,
Прама падпіхае.

І ў імгненне думка мне
Бліснула маланкай –
Хай разочак таўкане,
Я падстаўлю банку!

Падыграў, разгарачыў,
А тады на тормаз!

Чую – тах! Гатоў, пабіў!
Ну, цяпер ты мой, брат!

Каб ДАІ не выклікаць,
Баксаў мне адсыпаў,
Ну а сам хутчэй цякаць,
Бо яшчэ ж і выпіў…

Еду гэдак я далей,
Джыпер выязджае.
Дзе рабілі тых людзей? –
Зноў карціна тая!

Думаю, ну што губляць,
Шчэ разок падстаўлю.
Радасці не парадаць,
Я бязрукіх слаўлю!

Грошай тут узяў пабольш,
Ён жа і не бачыў,
Што растоўчаны мой корч,
Бы пярун адзначыў.

Еду, баксы шалясцяць,
Сунецца карыта,
Можна новае купляць,
Раз сваё разбіта!

Гэдак вось я зарабіў,
Дарагі мой дружа,
Смелых Бог благаславіў,
Слабакоў паплюжыў!

**“Над Гайнай”**

У Лагойску ёсць паданні,
Сэрцу мілыя, свае.
Прыкладзіце ж намаганне,
Ды паслухайце мяне.

То было ўжо даўнавата,
Але памяць зберагла.
Не скажу дакладнай даты,
Ды ўсё праўда, не мана!

Неяк, вечарам зімовым,
Горад ціха засынаў,
І пад чары снежнай мовы
Вецер песню напяваў.

Быў герой наш родам з Гайны,
Вёскі, у якой даўно
Вітаўт князь пакінуў тайны,
Баляваў і піў віно.

Ведаем, што слаўны Вітаўт
І касцёл там фундаваў,
Весялілась яго світа,
Нават нехта перабраў…

Вось і наш герой галоўны
У Лагойску адпачыў,
Гакнуў крэпка і грунтоўна,
Але сіл не разлічыў.

На двары марозны холад,
Дзе схавацца? На вакзал!
Ўзяў білет і спіць наш волат,
Нібы Вітаўт загадаў.

Сном салодкім апавіты
Ў светлых мроях уяўляў,
Што і ён ля княжнай світы
Срэбны келіх падымаў.

Ў гэты час аўтобус жвава
Лагазу ужо мінуў
І санлівага ласкава
Нехта у плячо штурхнуў.

– Прасынайцесь, калі ласка,
Закрываецца вакзал!
Ваша торбачка на звязцы? –
Голас ветлівы сказаў?

Як расплюшчыў свае вочы,
Азірнуўся хлопец наш,
Завіруха сярод ночы
Пачынала свой шабаш.

Выйшаў. Цемень, холад люты
І аўтобуса няма,
Раскідае свае путы
Беларуская зіма.

Тут пачуў матор здалёку,
Глядзь, міліцыя ідзе.

Паміргаў, пажмурыў вока,
Будзе выйсце у бядзе!

І насустрач шпарка, жвава
Рушыў стройны старшына,
Значыць добра будзе справа,
Ўсё ж, міліцыя свая!

Тут прыдумаў Славік хутка,
Што такое ім сказаць,
Каб у ночы гэтай жуткай
На двары не начаваць.

– Хлопцы! Тут такая справа,
Не глядзіце, што паддаў
І не думайце, што Слава
Сябрукоў сваіх задаваў.

Але ёсць у Гайне хлопец,
У яго свой аўтамат,
Ёсць таму  дакладны доказ
І жалезны кампрамат!

Але ўжо такі удаўся,
Што нікому не аддасць!
Хто забраць не намагаўся,
Гляне, лепей не падлазь!

–Славік, ты падпіў салідна,
Сам не чуеш, што вярзеш!
Хіба хлусіць не агідна?
Лепш закусвай, калі п’еш!

– Хлопцы! Гавару адказна,
Што ў яго ёсць аўтамат!
З гэтай думкай неадвязнай
Я ўжо боўтаюся шмат.

Толькі паўтараю зноўку,
Не аддасць нікому ён!
Незвычайны хлопец, лоўкі,
І чакае вас аблом!

–Калі так, то у машыну!
Ты пакажаш дзе жыве!
Будзе мець ён кіслу міну,
Ўсё аддасць, аж запяе!

Хутка едуць, разважаюць
Хто які адхопіць чын,
Як злачынца затрымаюць,
Што шалее без прычын.

Гэта ж трэба, каб у вёсцы
Мець таемна аўтамат!
Раскатаць яго па дошцы!
Не? Аб'явім перахват!

–Ну, кажы давай! Дзе хата?
Як найлепей пераняць?
Думкі рояцца багата,
Рвуцца нэрвы, не стрымаць!

Пахапілі сваю зброю,
Ўсе напружыліс, як дрын,

З фермы пахла перагноем,
Сенажом нясло з адрын.

– Ціха! – Слаўка адазваўся,
Тут ён, толькі не спужаць!
Ад яго фашыст хаваўся
І пускаўся уцякаць.

Тут герой дыхнуў павольна,
Ціха йдзе атрад за ім,
Ды як зараве раздольна
Гучным голасам ліхім:

– Вось ён!!! На гары вялікай,
З аўтаматам у руцэ!
Не аддасць, хоць плач, хоць клікай,
Хоць сплаўляйся па рацэ!

І угледзелі рабяты
Слаўны помнік земляку,
Што фашыстаў біў праклятых
На сваім ліхім вяку.

Што стаіць цяпер над Гайнай,
Дзе Купала узрастаў,
Дзе Гілевіча адчайны
Лёс паэта напаткаў…

Вось гісторыя якая
Адбылася, землякі!
Той, хто добры розум мае
Зробіць вынік, хоць які.

Хлопцы з жарта пасмяялісь –
На дзяжурстве весялей.
Ўспаміналі, як спрачалісь
Хто ж такі з усіх смялей.

Ну, а Славік наш пакрочыў
Да свайго парога спаць,
І не трэба сярод ночы
Ўжо цяпла яму шукаць.

Помнік жа стаіць высока
І вартуе наш спакой,
Ад Лагойска недалёка,
Над славутаю ракой…

**ЗМЕСТ**